

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

19 №10 40

# ВЯЛІКАЕ СВЯТА

23 годы, як народы Савецкага Саюза будуюць сваё радаснае, шчаслівае жыццё.

За годы савецкай улады наша краіна стала багатай і магутнай. Пабудаваны новыя заводы, фабрыкі. На калгасных палях загудзелі трактары. Значна павялічыўся ўраджай. Людзі пачалі жыць заможным і культурным жыццём. Усе дзеці ходзяць у школы. Для іх створаны ўсе ўмовы для вучобы і адпачынку. Усюды адчуваюцца бацькоўскія клопаты партыі, урада і вялікага Сталіна.

А наша Беларусь, якая ў мінулым была калоніяй царскай Расіі, зараз, як і ўсе саюзныя рэспублікі вялікага Савецкага Саюза, расквітнела і стала багатай і культурнай.

17 верасня 1939 года Чырвоная Армія вызваліла нашых братоў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад іга польскіх паноў. Нашы адзінакроўныя браты жылі да вызвалення ў цемры і галечы. Ім нават не дазволена было гаварыць на сваёй роднай мове. Дзеці беднякоў зусім не мелі магчымасці вучыцца. Зараз яны ўліліся ў вялікую сям'ю савецкага народа і сумесна з намі будуюць сваё жыццё. Усе дзеці вучацца на сваёй роднай мове.

Вырасла наша савецкая сям'я. У склад Савецкага Саюза ўступілі новыя народы—народы Бесарабіі, Паўночнай Букавіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Створана Саюзная Карэла-Фінская рэспубліка. Здзейснілася мара гэтых народаў—жыць адзінай дружнай сям'ёй з вялікім савецкім народам.

І ўсе вызваленыя народы сумесна з усімі працоўнымі Савецкага Саюза свабодна і радасна святкуюць свята вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

## *Шчаслівая доля*

*Даўней нашыя кароўкі мусілі стаяці,*
*Бо навокала ляжалі пана сенажаці.*
*Даўней нашыя сяляне пад панскім наглядам*
*Зямлю мусілі варочаць і мірыцца з горам.*
*„Ну, дакуль-жа працаваць так?"—казалі сяляне,*
*„Няўжо чорт які не возьме таўшчэзнага пана?!"*
*А цяпер усе сяляне жывуць, весяляцца:*
*Не на панскае адроддзе,—на сябе іх праца!*

Янка Міхальчук,
вучань 3-га класа Залескай школы. Глыбоцкі р-н, Вілейская вобласць.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛ[Я]
ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСА[Ў]
Кастрычнік 1940 г. № 1[0]

# ДАГЕСТАНСКАЯ ПЕСНЯ ПРА СТАЛІНА

*Рыс. В. ЦІХАНОВІЧА*

Рэкі імкнуцца ў мора,
Сталь да магніта імкнецца,
Травы імкнуцца да сонца,
На поўдзень імкнецца птах.

Людзі-ж імкнуцца да шчасця,
Яны імкнуцца да праўды,
Іх сэрцы імкнуцца да дружбы,
Думкі імкнуць да цябе.

Ластаўкай быць жадаў-бы,
Ластаўкай лёгкакрылай,
Спрытнай і стройнай целам,
Каб пабываць у Крэмлі.

Каб хаця раз убачыць,
Як усміхнецца Сталін,
Чуўшы прамовы новых,
Выхаваных ім людзей.

Лісці трапечуць у гаях,
Зоркі трапечуць у небе,
Хвалі трапечуць у рэчках,
Калі ўстае зара.

Так у людзей трапечуць
Рукі ў апладысментах,
Калі яны ў меджлісе*)
Чуюць тваё імя.

Быў я батрак, батрачыў,
Быў чаляднікам, бачыў
Гаспадара толькі руку,
І майстэрні—парог.

Сталін! Ты даў нам радасць,
Радасць і сілу ў рукі,
Радасць і праўду ў сэрца,
Радасць і шчасця шлях.



*Пераклаў Віт. Вольскі.*



*) Меджліс—народны сход.



ЭЛЯ КАГАН

# Як з'елі месяц

Рыс. М. ВАКСЭРА

Каля сярэбранай рэчкі стаіць залаты човен. Не залаты—гэта так здаецца. Дзеці лезуць у човен, а Міхалэ становіцца капітанам. Міхалэ кажа, каб мы ехалі проста, ды не скрывілі, тады даедзем да месяца.

Едзем. Малая Хавелэ крыху баіцца, скрывілася. Тады Міхалэ паўтарае:

— Мы павінны ехаць проста, а не крывіцца.

Працуем вёсламі. Вада — плясь-плясь! У рэчцы ирасыпаюцца рыбкі. Зоркі і месяц адлюстроўваюцца ў вадзе. Рыбкі плывуць паміж зорак. Чарпні лыжкай у вадзе,—дастанеш залатую рыбку, пару зорак і некалькі кропель месячнага ззяння.

Едзем. А месяц адсоўваецца ўсё далей. Увесь час адсоўваецца і ніякай рады не дасі.

Тады Хавелэ пачынае плакаць.

І да яе кажа капітан Міхалэ:

— Сама ўздумала ехаць да месяца, а цяпер плачаш. Калі было-б лёгка ехаць да месяца, ты паехала-б туды трамваем. Трэба ехаць і не крыўдзіцца.

Неба раптам пацямнела і месяц схаваўся.

Тады Міхалэ сказаў:

— Можна ехаць назад. Мы з нашымі ведамі, што мы маем, яшчэ не можам дабрацца



да месяца. Калі-б усе дзеці маглі на чаўнах дабірацца да месяца, дык мы-б даўно там пабудавалі палацы для дзяцей, бо на ўсіх прыгожых мясцінах будуюць палацы для дзяцей.

Човен павярнулі назад.

Раптам Хавелэ ўскрыкнула:

— Мы ўжо даехалі да месяца! Вось ён!

Усе зірнулі на бераг: праўда! Бо ляжыць месяц, жоўты і аграмадны.

Вышлі на бераг падзівіцца на месяц. Дзеці пачалі мацаць месяц з усіх бакоў, толькі Міхалэ стаяў воддаль. „Усё ім гульня, малым",—як дарослы падумаў ён.

Месяц прырос да зямлі, дык яго ледзь адарвалі.

Раптам надышоў вартаўнік з доўгай барадой і доўгім кіем.

— Зладзеі!—крыкнуў ён. — Усяго адна дыня такая вырасла, а вы яе вырвалі! Што скажа дырэктар! Вы ведаеце, што гэта за дыня? Гэта навуковая дыня! Гэта-ж мы тут выгадавалі найвялікшую дыню ў Саюзе! Навошта вы вырвалі дыню?

Дзеці маўчаць. Што-ж! Каму невядома, што месяц выглядае, як дыня? Але ў сапраўднасці ён можа ў мільён разоў большы за дыню... У гульні забылі, што гэта поле вопытнай станцыі, што гэта навуковая дыня. Цяпер сорамна і сказаць. Усе маўчаць.

На крык вартаўніка падышоў дырэктар. Ён загадаў вартаўніку больш не крычаць. Зладзеі? Піонеры не могуць быць зладзеямі. Але ён стаяў вельмі смутны, дырэктар. Дзеці таксама смутныя. Яны піонеры, а вартаўнік называў іх зладзеямі. Усе стаялі такія смутныя, нібы месяц памёр.

— Чаму вырвалі дыню?—хрыпла запытаўся дырэктар. (Калі ён смутны, дык заўсёды хрыпла гаворыць).

Яны маўчаць. Ці-ж ён, дырэктар, зразумее, калі яму скажуць, што гэта яны ехалі на месяц, што яны ехалі адважна, што яны ехалі проста, проста і не крывілі, хацелі зрабіць вельмі слаўны ўчынак, слаўны і геранчны, а кончылася тым, што сапсавалі навуковую дыню.

Але Хавелэ яшчэ маленькая і яна шчыра думала, што едуць да месяца, таму яна не саромілася і сказала:

— Мы думалі, што гэта месяц.—Так, яна сказала—месяц. Лепш яна не ўмее. У ды-







рэктара твар стаў раптам вясёлы. Мабыць, у гэтую хвіліну ён успомніў, што калісьці і ён быў малы і таксама ездзіў да месяца, таксама сарваў дыню, а вартаўнік яго тады біў за гэта. У гэтую хвіліну ён, мабыць, пра гэтае самае прыгадаў. Ён вельмі заняты чалавек, ён заўсёды думае пра навуку і іншага вольнага часу, каб пра гэта ўспомніць, у яго напэўна няма.

Ён, дырэктар, зрабіў вельмі сур'ёзны твар і сказаў ужо чыстым голасам:

— Прапала! Толькі дайце ваша дзіцячае слова, што больш на вопытнай станцыі месяца рваць не будзеце. Гэты, што вы цяпер вырвалі, можаце з'есці. А калі вы добрыя дзеці, дайце і нам па кавалку.

Тады дзеці з дырэктарам і вартаўніком разрэзалі месяц, елі, елі, а палавіна яшчэ засталася.

А на дарогу дырэктар яшчэ даў ім яблыкаў і ігруш.

Малая Хавелэ шчыра думала, што яны сапраўды з'елі палавіну месяца, а цяпер на небе будзе свяціць толькі адна палавіна месяца.

Па дарозе назад зноў над іх чоўнам свяціў цэлы месяц.

Па небе плыў поўны месяц. А ўсе дзеці адчувалі ў роце смак месяца.

Пераклаў з яўрэйскай мовы

З. Бядуля.



М. Багдановіч

Рысунак В. ЦІХАНОВІЧА



# ЛАСУН

Гэты мілы, белы пальчык,
Тоненькі, кароткі.
Усё у рот бярэ мой мальчык,
Надта ўжо салодкі!..

# Восень і зіма ў вершах А. С. Пушкіна

Урыўкі з паэмы „Еўгеній Онегін“

Рыс. А. САПЕТКО



Нябёсы восенню дышалі,
Радзей з-за хмарак промні ззялі,
Стаў карацейшым сонца шлях,
Густых лясоў таемны дах
Лісты губляў з маркотным шумам,
І клаўся на палі туман,
Гусей крыклівых караван
Цягнуўся ў вырай: шэрым сумам
Спавіта ўсё—і дом, і сад;
Так надыходзіў лістапад.
Зара ўстае ў імгле халоднай;
На нівах шум работ замоўк;
З сваёй ваўчыхаю галоднай
Выходзіць на дарогу воўк;
Яго пачуўшы конь дарожны
Храпе,—і вось яздок трывожны
Ляціць, ажно займае дух;
На ранішняй зары пастух
Кароў не гоніць па лагчыне,
І ў час паўдзённы ў халадок
Не кліча іх яго ражок;
У хатцы дзева пры лучыне
Спявае ночкаю глухой,
Прадзе бясконцы кужаль свой.

. . . . . . . . . . . . .





Лісты ўжо восень рассыпае.
Пад каляровым дываном
Зямля заснула мёртвым сном...
Вось поўнач хмары наганяе,
Завыла ўраз—і вось сама
Ідзе чароўная зіма.
Прышла; маўклівымі шматкамі
Павісла на суках дубоў;
Лягла мяккімі дыванамі
Навокал гор, сярод палёў;
Крутыя берагі з ракою
Зраўняла пульхнай пеляною;
Заззяў мароз. І рады мы
Суровым забаўкам зімы.

. . . . . . . . . . . . . .

Люстраней моднага паркета
Заззяла рэчка, ў лёд адзета.
Там дзеці—радасны народ.
Канькамі звонка рэжуць лёд;
Чырвоналапы і дзябёлы
Плысці надумаўся гусак,
На коўзкі лёд ступіў, дзівак,
І важка падае; вясёлы
Мільгае, кружыцца сняжок,—
У першых зорках беражок.

Пераклаў А. КУЛЯШОЎ




*ЯКУБ КОЛАС* *Рыс. М. КАРПЕНКА*

Жылі-былі ў лесе лісічка і зайчык.

Жылі яны непадалёку адзін ад другога. Прышла восень. Холадна стала ў лесе. Надумаліся яны хаткі на зіму пабудаваць. Лісічка збудавала сабе хатку з труску-сняжку, а зайчык з труску-пяску. Перазімавалі яны ў новых хатках. Настала вясна, прыгрэла сонца. Лісічкіна хатка растала, а зайкіна стаіць, як стаяла. Прышла лісіца ў зайкіну хатку, выгнала зайку, а сама ў яго хатцы засталася. Пайшоў зайка з свайго двара, сеў пад бярозкаю ды плача. Ідзе воўк. Бачыць— зайка плача.

— Чаго ты, зайка, плачаш?—пытае воўк.

— Як-жа мне, зайку, не плакаць? Жылі мы з лісічкаю блізка адзін каля аднаго. Пабудавалі мы сабе хаты: я з труску-пяску, а яна з труску-сняжку. Настала вясна. Яе хатка растала, а мая стаіць, як стаяла. Прышла лісічка, выгнала мяне з мае хаткі і сама ў ёй жыць засталася. Дык вось я сяджу ды плачу.



— Не плач, зайка. Пойдзем, я табе памагу, праганю лісічку з твае хаты.

Пайшлі яны. Прышлі. Воўк стаў на парозе зайкавай хаткі і крычыць на лісічку:

— Чаго залезла ў чужую хату? Злазь, ліса, з печы, а то скіну, паб'ю табе плечы.

Не спалохалася лісічка, адказвае воўку:

— Ой, воўк, сцеражыся: мой хвост як дубец—як дам табе, дык будзе канец.

Перапалохаўся воўк ды наўцёкі, і зайку аднаго пакінуў. Сеў зноў зайка пад бярозкай ды горка плача. Ідзе праз лес мядзведзь. Бачыць—зайчык сядзіць пад бярозай і плача.

— Чаго, зайка, плачаш?—пытае мядзведзь.

— Як-жа мне, зайку, не плакаць? Жылі мы з лісічкаю блізка адзін каля аднаго. Пабудавалі мы сабе хаты. Я з труску-пяску, а яна—з труску-сняжку. Настала вясна. Яе хатка растала, а мая стаіць, як стаяла. Прышла лісічка, выгнала мяне з мае хаткі і сама там жыць засталася. Дык вось я сяджу ды плачу.

— Не плач, зайка: пойдзем, я табе памагу, праганю лісічку з твае хаты.

Пайшлі яны. Прышлі. Мядзведзь стаў на парозе зайкінай хаткі і крычыць на лісічку:

— Нашто адабрала ў зайкі хату?



Злазь, ліса, з печы, а то скіну, паб'ю табе плечы.

Не спалохалася лісічка, адказвае мядзведзю:

— Ой, мядзведзь, сцеражыся: мой хвост як дубец—як дам, дык будзе табе канец.

Спалохаўся мядзведзь ды наўцёкі, і зайку аднаго пакінуў. Зноў пайшоў зайка з свайго двара, сеў пад бярозкаю ды горка плача. Аж бачыць—ідзе праз лес пеўнік. Угледзеў зайчыка, падышоў і пытае:

— Чаго, зайка, плачаш?

— Ды як-жа мне, зайку, не плакаць? Жылі мы з лісічкаю блізка адзін ад другога. Пабудавалі мы сабе хаты. Я—з труску-пяску, а яна—з труску-сняжку. Настала вясна. Яе хатка растала, а мая стаіць, як стаяла. Прышла лісічка, выгнала мяне з мае хаткі і сама там жыць засталася. Вось я сяджу ды плачу.

— Не плач, зайка: я выганю лісу з твае хаткі.

— Ой, пеценька,—плача зайка,—дзе табе яе выгнаць? Воўк гнаў—не выгнаў. Мядзведзь гнаў—не выгнаў.

— А вось-жа я выганю. Пойдзем,— кажа пеўнік.

Пайшлі. Увайшоў пеўнік у хатку, стаў на парозе, кукарэкнуў, а потым як закрычыць:

„Я—пятух-чабятух,
Я—пявун-лапатун,
На кароткіх нагах,
На высокіх пятах.
Нясу касу на плячы,
Хачу ліску засячы".

А лісічка ляжыць ды кажа:

— Ой, певень, сцеражыся: мой хвост, як дубец—як дам, дык табе будзе канец.

Скочыў пеўнік з парога ў хату ды зноў крычыць:

„Я—пятух-чабятух,
Я—пявун-лапатун,
На кароткіх нагах,
На высокіх пятах.
Нясу касу на плячы,
Хачу ліску засячы".

І—скок на печ да ліскі. Дзюбануў лісу ў спіну. Як усхопіцца лісіца ды як пабяжыць вон з зайкінай хаткі, а зайка і дзверы зачыніў за ёю.

І застаўся ён жыць у сваёй хатцы разам з пеўнікам.






ЯДВІГІН Ш. Рыс. Б. СРЭЦЕНСКАГА

Павёў Язэп бычка-трацячка на рынак прадаваць; на дарозе спатыкае салдатаў; тыя і пытаюцца Язэпа:

— Куды, старча, бычка вядзеш?

— На торг прадаваць вяду,—кажа Язэп,—такі нейкі няўдалы, наравісты ўдаўся, што рады даць не магу.

— Эх, дурны ты, землячок,—кажуць салдаты,—што-ж ты возьмеш за гэткую злыбіну? Аддай лепш нам яго на навуку ў горад на які год, дык прынамсі пасля жмені са тры грошы згорнеш.

Падумаў, пачухаў патыліцу Язэп, падумаў—згадзіўся і аддаў бычка на навуку салдатам, а сам вярнуўся дадому.

Мінуў год; пайшоў Язэп у горад па свайго быка. Дапытаўся салдатаў, катоырым аддаў сваю жывёлу на навуку, прыходзіць да іх і пытае:

— Ну, землячкі, як мой падласы? Ці добра навучыўся?

— Ах, каб ты ведаў,—кажуць яны,— якой бяды набраліся мы з ім! Спярша— як спярша: брыкаўся, тузаўся, бадаўся,— яле неяк далі рады—угаманіўся; толькі, як прышло ўжо да самай навукі, то так стаў скора браць усё ў свой бычачы розум, што аж рогі паадпадалі, шэрсць выпаўзла, стаў хадзіць на двух нагах, словам, зусім падабнюсенькі стаўся да чалавека. А які разумны, аж дзіва!

— Ну, я яму скора выганю гэты розум з галавы,—кажа Язэп,—толькі вядзіце мяне ў хлеў, дзе ён стаіць.

— Звар'яцеў ты, чалавеча, ці што?— кажуць салдаты.—Праўда, чакаў ён цябе, але жыць болей з намі не захацеў: дагадзіць яму не маглі патрапіць; перабраўся ён цяпер на сваю кватэру і, чутно, папаў у вялікія чыноўнікі.

— Пакажыце—тыкеля,—просіць Язэп,— дзе ён жыве, а я ўжо сам дам рады: нябось, пастронкі моцныя ўзяў.

Салдаты завялі Язэпа, паказалі дом, куды ісці, а самі ўцяклі. Язэп, убачыўшы на дварэ нейкага чалавека, пытае:

— Дзе тут жыве бык?

— Не бык,—адказвае той,—а Быкаў; вунь у тыя дзверы ідзі.—Раскруціўшы пастронак і прыгатаваўшы пугу, смела Язэп адчыняе адны, другія дзверы і апынуўся ў вялікім пакоі, дзе ўбачыў абедаўшага за сталом пана.

— Табе чаго?—пытае той.

Язэп, падміргваючы адным вокам, зарагатаў і кажа:

— Іш ты, падласы, які ласун! Нябось, не спазнаў гаспадара!?

— Вон пайшоў!—крыкнуў пан, выскачыўшы з-за стала.

— Быську, быську,—стаў усцішваць Язэп разгневанага пана, але той рынуўся на яго з кулакамі.

Язэп, доўга не чакаючы, закінуў на пана пастронак, зацягнуў яго, ды давай акладаць пугай...

Нямаведама, чым-бы гэта скончылася, каб не збегліся на крык людзі і не абаранілі пана.

# Хаванкі

Н. ПОСАЎ

Рыс. А. САПЕТКО

Мы з Мішкам сядзелі дома за тое, што сахарніцу разбілі. Мама пайшла, а да нас прышоў Воўка.

— Эй, — гаворыць, — давайце гуляць у што-небудзь!

— Давайце ў хаванкі!—кажу я.

— Ды тут і хавацца няма дзе!

— Чаму, няма дзе? У пакоі можна, у кухні, у чулане. Я, браце, так схаваюся, што ты ніколі не знойдзеш!

— Фі! Раз, два—і знайду! Давай лічыцца!

Пералічыліся мы. Вадзіць выпала Воўку. Ён пайшоў у карыдор і пачаў лічыць да дваццаці пяці. Мішка пабег у пакой, а я ў чулан. Там ляжала пустая рагожка, я залез у яе і скруціўся на падлозе камочкам. Вось Воўка адлічыў да дваццаці пяці і пайшоў шукаць. Мішку ён адразу знайшоў пад ложкам і пабег у карыдор:

— Палачка-выручалачка, выручы мяне! Тра-та-та!

Потым гаворыць:

— Так, аднаго знайшоў. Зараз знойдзем другога. Ад мяне, браце, не схаваешся! Я, браце, ішчэйка! Раз, два—і найду. Так... Пад ложкам больш нікога няма, пад канапай няма, за этажэркай няма. Напэўна, у кухні!

Пайшоў у кухню:

— Паглядзім тут. Так... За печкай няма... пад сталом няма... за шафай няма. Напэўна, у чулане сядзіць!

Пайшоў у чулан і спыніўся каля мяне.

— Тут каструлі нейкія, крэсла зламанае, рагожка старая. Нікога няма!

Мне стала смешна, але я сціснуў рот рукою. Воўка пайшоў зноў у пакой.

— Напэўна, тут дзе-небудзь!.. Пад сталом няма... пад ложкам няма. Дзе-ж ён! Ты не бачыў, Мішка?

— Не.

— Гэта вы напэўна згаварыліся супроць мяне! Ты чаго сядзіш на ложку? А ну, злазь! Напэўна ён тут, пад коўдрай! Няма. Куды-ж ён дзеўся?

— Можа быць, у чулане?—гаворыць Мішка.

— Няма, я глядзеў!

— А ну, я пагляджу.

Мішка ўвайшоў у чулан, пасоп нада мной носам і гаворыць:

— Нікога няма. Я ведаю! Ён уцёк на двор!

— Як-жа ён мог уцячы, калі я вадзіў у карыдор.

— Гэта такі тып!—гаворыць Мішка.— Аднаго разу мы гулялі на дварэ ў хаванкі. Было позна ўжо, увечары. Яму надакучыла гуляць, ён нікому нічога не сказаў, пайшоў дадому і лёг спаць. Мы шукалі яго па ўсяму двару, па ўсіх лесніцах, па





ўсіх закавулках. Нідзе не знайшлі. Прыходжу я дахаты, а ён спіць і робіць выгляд, што нічога не ведае. Вось які гэта тып!

Я не вытрымаў і засмяяўся. Яны пачулі.

— Ён тут!— крычаць. — Напэўна, у шафе сядзіць!

Адчынілі шафу. Няма.

— Можа быць, у буфеце? Няма.

— А гэта што ў вас за дзверы?—пытаецца Воўка.

— Гэта папін пакой. Ен зачынен. Папа не пускае нас туды з таго часу, як мы ва ўсіх яго кніжках чорцікаў намалявалі.

— А навошта вы чорцікаў намалявалі?

— Мы ў кіно гулялі.

Воўка таргануў дзверы.

— Ну, я не гуляю больш! Выходзь,— закрычаў ён.—Гульня скончана! І не хочаш, ну і сядзі сабе!

Мішка пачаў высоўваць скрыні камода і перастрасаць бялізну.

— Што ты шукаеш у гэтых скрынях, хіба там схаваешся!—раззлаваўся Воўка і пайшоў у карыдор.

У мяне пад рагожкай стала горача і душна. Я ўвесь пакрыўся потам, але не хацеў вылазіць. Мішка доўга скрыпеў скрынямі камода, і раптам закрычаў:

— Воўка, ідзі сюды!

— Знайшоў?— адгукнуўся Воўка.

— Не, я не магу вылезці.

— Адкуль?

— З камода. Я ў камодзе сяджу.

— Чаго ты сядзіш у камодзе?

— Я хацеў праверыць, можна схавацца ў скрыні ці не, а скрыня перакасілася і я не магу вылезці!

Мне стала смешна. Воўка кінуўся шукаць мяне.

— Выцягні мяне спачатку!—закрычаў Мішка.

— Ды не крычы. Я не магу зразумець, дзе ён смяецца.

— Выцягні мяне! Мне сумна!

Воўка выцягнуў скрыню і дапамог выбрацца Мішку. Яны разам прыняліся шукаць мяне.

— Ён, здаецца, у сундуку!—сказаў Воўка.

Яны кінуліся да сундука і пачалі адкрываць крышку, але яна не адкрывалася.

— Закрыта!—сказаў Мішка.

— А можа ён знутры трымае.

Яны пачалі стукаць па крышцы і крычаць:

— Вылазь, дурань!

Я маўчаў. Тады яны зноў накінуліся на сундук, перавярнулі яго ўверх дном, але адкрыць не маглі.

— Можа быць, ён за вешалкай?— гаворыць Мішка.

— Не, я глядзеў.

— Можа, ты дрэнна глядзеў. Аднаго разу ён залез пад паліто, якое вісела на вешалцы, рукамі ўхапіўся за кручок, а ногі пад сябе падагнуў. Я шукаў, шукаў яго, і ні за што не знайшоў-бы, каб вешалка не павалілася разам з ім на падлогу.



Яны падбеглі да вешалкі, скінулі з яе адзежу, і нічога не знайшлі.

— Пастой! — закрычаў Мішка.—Мы пад печкай зусім не глядзелі!

Яны пабеглі ў кухню і пачалі пароць качаргой пад печкай.

— Вылазь! Усёроўна зараз папаўся.

Мне зноў захацелася смяяцца. Яны пачулі мой смех і кінуліся ў чулан. Воўка спаткнуўся аб мяне і паваліўся.

— Яшчэ гэтую рагожку нейкі дурань кінуў!—закрычаў ён і са злосці як стукне мяне нагой. Я як закрычу. Вылез з-пад рагожкі і кажу:

— Чаго ты б'ешся?

Ён убачыў мяне:

— Ага! Папаўся.

І пабег у карыдор.

— Палачка-выручалачка! Тра-та-та!

— Можаш не спяшыць! Я не гуляю. Гэта не гульня, каб біцца.

Раптам адчыняюцца дзверы і ўваходзіць мама. Яна паглядзела навокал і прыхілілася да сцяны.

— Што тут, зладзеі былі?

— Не.

— Чаму-ж усё разварочана? Шкафы адчынены, з камода скрыні выцягнуты, бялізна на падлозе, сундук дагары дном.

— Гэта мы ў хаванкі гулялі.

— Ах, у хаванкі! За гэта не пойдзеце сёння ў кіно!



Я кажу:

— А я за што? Гэта ўсё Мішка з Воўкам. Я ўвесь час у рагожцы сядзеў.

— А ты за тое, што ў рагожцы сядзеў!.. Ну, марш на двор. Мне тут пасля вас тры дні ўбіраць трэба.

Мы ўзрадаваліся, што нас хоць на двор пусцілі і пабеглі гуляць.



# Стась птушкалоў

Рыс. М. СВЯЦКАГА

Быў у нас хлопчык, а зваўся ён Стась.
Ґэтакі спрытны ён быў верхалаз:
На дрэва узлезе любой вышыні,—
Папробуй яго ты злаві, дагані.

Як кот, такі лоўкі быў Стась-птушкалоў,
У лес ён заўсёды хадзіў на улоў.
І лес яму спаць не даваў па начах,
Птушыныя гнёзды стаялі ў вачах.

Дупло дзе прыкмеціць—ураз будзе там,
І станецца дрэнна тады ўжо дзятлам
А гладкае дрэва яму ні па чым,
Кашуля, штаніны ірвуцца на ім

І сварыцца матка тады на яго,
А Стась не глядзіць, бы не чуе таго.
І ходзіць ён смела ўвесь дзень па бары,
І лазіць па дрэвах з зары да зары.

Стасю прысніўся раз гэтакі сон:
Быццам па дрэве ўскарабкаўся ён
Там на вяршыні гняздо каршуноў;
Хоча ён коршуна знесці дамоў.

Раптам, як вылеціць коршун стары—
Як закрычыць ён у цёмным бары.
Б'е ён па твары шэрым крылом,
Вока ў Стася, як-бы не было.



Боль аж да сэрца яго праняла,
Цёплая кроў па шчацэ пацякла.
Стасік як крыкнуў—праснуліся ўсе.
Бачыць—на койцы... Было гэта ў сне.

Гальштук чырвоны,—Стась піонер,
Гнёздаў птушыных не нішчыць цяпер.
Шкоднасць учынкаў сваіх асазнаў,
Клятву ўрачыста атраду ён даў:
— Птушак ніколі не буду знішчаць,
Зімою ім корм яшчэ буду даваць.

І. КОРЗУН

# Цуды ў кіно



Рыба прыгала з палонкі прама ў рукі чалавека. На працягу ...калькіх секунд зіму змяняе лета. Вёдры, напоўненыя да краёў ...дой, ідуць самі ад студні дамоў. Чалавек едзе на печцы...

Усе гэтыя цуды мы бачым на экране кіно ў казцы „По ...чьему велению".

Але ніякіх цудаў тут няма. Гэта звычайныя кінотрукі.

Каб глядач убачыў на экране ператварэнні зімы ў лета, ...ноаператар ужывае такі трук. Здымаецца від зімы. Паступова ...чыняецца адтуліна аб'ектыва кіноапарата да тых пор, пакуль ...д зімы амаль поўнасцю знікае. Затым плёнку адкладваюць да ...та. Калі з'яўляецца зялёная траўка і распускаюцца дрэвы, ...ператар зноў зараджае гэтую плёнку, ставіць апарат на тое-ж ...мае месца, дзе ён стаяў узімку і пачынае здымаць летні від. ...акім чынам на плёнцы вобраз зімы накладваецца на вобраз ...ета. Стварaецца поўнае ўражанне, што зіма маланкава пера...параецца ў лета.



Для таго, каб на экране вёдры з вадой ішлі самі ў хату, ...ператар выкарыстоўвае другі трук. Здымка робіцца мультыплі...кацыйным спосабам, гэта значыць не безупынным рухам ручкі ...здымачнага апарата, як гэта робіцца звычайна, а з перапынкамі ...асля кожнага зазнятага кадрыка. Вёдры пры кожным такім ...ерасоўванні падсоўваюцца ўперад апаратарам на нявялікую ...адлегласць.



Пры хуткім вярчэнні ручкі кіноапарата гледачам здаецца, ...то вёдры ідуць самі.

Але, калі на экране разам з вёдрамі павінен быць чалавек, ...ператар ужо не можа ўжываць мультыплікацыйны спосаб ...здымкі. У гэтым выпадку да вёдраў прымацоўваецца тонкі ...тальны дрот, непрыметны для гледача. Вёдры цягнуць уперад ...а гэты дрот памочнікі рэжысёра, якія знаходзяцца здалёк.

Такім-жа спосабам зазнят эпізод з санямі, якія едуць самі, ...ез каня. А для здымкі язды на печы быў зроблен такі трук: ... печ уставілі аўтамабільныя колы і яе цягнуў за дрот грузавік.

На экране конь царскага ганца па шчуччаму загаду скача ...задам. Шчука на заклік Емелі сама прыгае да яго ў рукі.

Нават дровы і тыя самі, палена за паленам, укладваюцца ... Емеліны сані.



Тут кіноаператар ужыў так званую адваротную кіно-здымку.

Пры звычайнай здымцы кіноаператар верціць ручку здымач...нага апарата па гадзіннікавай стрэлцы, а пры адваротнай здымцы ...ён зараджае здымачную камеру так, каб магчыма было праводзіць ...здымку, верцячы ручку кіноапарата супроць гадзіннікавай стрэлкі. ...Тады рух на плёнцы адбываецца ў адваротным парадку. Конь ...рухаецца ўперад, а на экране атрымоўваецца, што ён рухаецца ...задам. Емеля кідае шчуку ў палонку, а на экране атрымоў...ваецца, што шчука прыгае з палонкі ў рукі да Емелі.

Я апісаў вам, рэбяты, толькі некалькі простых кінотрукаў, ...але і з гэтага вы бачыце, колькі магчымасцей мае кіноаператар ...пры стварэнні самых фантастычных эпізодаў у кіно, асабліва ...ў фільмах для дзяцей.

Аператар Саюздзетфільма *Г. Рэйсгоф.*




Англійскія багачы ў Гортэхсхеме (графства Дорсет) нядаўна прыдумалі новы від забавы—кашачы бег.

Спаборніцтва паміж катамі-бегунамі адбываецца на спецыяльна абсталяваным „котадроме“. Каты бягуць за электрычнай мышкай.

Багачы і дваране ставяць на катоў вялікія грошы, спрачаючыся, чые каты прыбягуць хутчэй.

Катам-„чэмпіёнам“ ствараюць усе выгоды. Да іх прыстаўлены спецыяльныя слугі. Партрэты катоў друкуюцца ў газетах.

Багачы не шкадуюць вялікіх грошай для катоў і для абсталявання „котадромаў“ і ў той-жа час не знаходзяць сродкаў для дапамогі галадаючым дзецям беспрацоўных.





# ПІСЬМО РАДЫЁАМАТАРА

Уключыўшы радыёпрыёмнік, я пачуў знаёмы напеў, але словы песні зразумець не змог, бо перашкодзілі атмасферныя з'явы. Мне ўдалася запісаць толькі некалькі няпоўных слоў і літар.

Па гэтаму запісу я імкнуўся аднавіць тэкст песні, але не змог.

Ці не дапаможаце вы мне, рэбяты?

Л..ко на ..рд.. от пе... ..селой
... ..учать не ...т ..когда
любя. ...ню ..ревни и ..ла
И ..... ..сню боль... ...ода.

# ФОКУС

Вазьміце шклянку з вадой, каробку і дзве запалкі і размясціце іх так, як паказана на рысунку.

Цяпер, узяўшы шклянку ў рукі, паспрабуйце напіцца вады з яе, але так, каб становішча запалак не змянілася.



# ЁЛАЧНЫЯ ЦАЦКІ.



## Празрыстыя ліхтарыкі

Падбярыце два сподкі розных размераў. Па абадку большага выражце картонны кружок. Пакладзіце на яго ў самым сяродку меншы сподак, абвядзіце алоўкам і выражце. Атрымаецца ў вас кальцо—гэта верхні абадок ліхтарыка, а выразаны круг будзе донышкам. Нарэжце тонкую празрыстую паперу для сценак ліхтарыка, а зверху на яе наклейце сілуэты розных фігурак з шчыльнай паперы—качак, лебедзеў, катоў і другіх. Ручку ліхтарыка зрабіце з дроту. Донышка і абадок афарбуйце.

На рысунку 1 паказан гатовы ліхтарык.

Можна зрабіць і ліхтарык, які паказан на рыс. 2. Толькі сценкі для такога ліхтарыка трэба зрабіць з картона. Зоркі па баках можна выразаць і заклеіць каляровай паперай з унутранага боку. Можна таксама на бакі наклейваць розныя фігуркі.

## Зорка на вярхушку ёлкі

Выражце з тонкага картону паласу даўжынёй у 102 сантыметры і шырынёй 6 сантыметраў. Праз кожныя 10 сантыметраў акуратна па лінейцы зрабіце надрэзы астрыём нажа.

Два надрэзы зрабіце ўздоўж палоскі, як паказана на рыс. 3. Затым сагніце палоску па надрэзах так, каб атрымалася зорка. Заклейце яе зверху і знізу каляровай паперай. Зорка гатова.

## Сцяжкі

Нарэжце палоскі паперы размерам 21 сантыметраў у даўжыню і 5 сантыметраў у шырыню. На кожнай палосцы з аднаго боку нарысуйце па два аднолькавых рысункі размерам у 10 × 5 сантыметраў. Рысуйце каляровымі алоўкамі розных рыбак, птушак, жывёл (рыс. 4—5). Кожную разрысаваную палоску сагніце папалам, каб рысункі засталіся з знадворнага боку, потым надзеньце на доўгі шнур, змажце ўнутраныя бакі крухмалам і склейце. Сцяжкі надзяваюцца на шпагат на адлегласці 5 сантыметраў адзін ад другога.





**ПАПРАЎКА**

Рэбяты, па віне рэдакцыі ў 8-м нумары нашага журнала надрукавана апавяданне „Рыгорава памылка", аўтарам якога ўказан Якуб Колас, а трэба—Н. Горцаў.

Рэдактар А. В. Бярозкін. Афармленне М. Свяцкага. Адрас рэдакцыі: Мінск, Дом Друку
Друкарня імя Сталіна. 20.000 экз. Зак. 2770. 2½ друк. арк. У4747

